*Алесь Бадак*
*Віктар Шніп*

# МЫ КУПІЛІ КРАКАДЗІЛА

ВЕРШЫ







Мінск
«Юнацтва»
1995



## МЫШКА

Уцякала мышка
Ад коціка,
Пагубляла мышка
Боцікі.
Ой, памерзлі ў бедненькай
Ножкі,
Хворая ляжыць яна
Ў ложку.
Дактары прыходзяць к ёй
Часта.
Горкія даюць ёй
Лякарствы.
Гладзіць мама
Мышку-малышку:
— Можа, пачытаць табе
Кніжку?
Не сумуй, мая ты
Малютка.
Станеш ты здаровая
Хутка.
Новыя куплю табе
Боцікі.
Толькі ж сцеражыся ты
Коціка!



## ВЕЦЕР
## І ШАРЫК

— Вецер, вецер,
Пачакай!
Жоўты шарык мой
Аддай!
Вецер, ветрык,
Ну, прашу...
Я ўсё маме
Раскажу!
— Не крыўдуй! —
Сказаў мне вецер. —
Паляціць твой шар
Па свеце.
А затым
Праз месяц
Паляціць
На Месяц.
Не забудзь тады
Адно:
Перад сном
Зірні ў акно!

## ЯК ЦІМОХ АБЕДАЎ



Ох! Ох! Ох!
Натаміўся
Наш Цімох.

Ох і натаміўся!
Ох і нарабіўся!

Што рабіў ён,
Хочаш ведаць?
Слухай:
Сеў Цімох
Абедаць.

З'еў увесь спачатку
Боршч:
Міскі тры,
А мо і больш.

Потым з'еў
Талерку кашы.
Потым выпіў
Прастаквашы.

Праглынуў
Адну катлету,
З'еў талерку
Вінегрэту.



А затым яшчэ
У рот
Ён адправіў
Бутэрброд.

Ну, а потым?
Ну, а потым
Ён запіў усё
Кампотам.

Мама кажа:
«Ты, Цімошка,
Адпачні крыху
На ложку.

Адпачні,
Мая малютка,
Ды вячэраць
Будзем хутка».

Рады наш Цімох
Паспаць.
Ды не можа ён
Устаць!

Натаміўся
За ядою,
Што не справіцца
З сабою.

Зварухнуцца нават
Цяжка.
Уздыхае
Брацік Сашка:

— Трэба нам цяпер,
Відаць,
Кран пад'ёмны
Выклікаць!



## ХТО ТАМ СТУКАЕ Ў АКНО?

— Стук — стук!
— Хто там, хто там?
Хто там стукае ў акно?
На дварэ ўжо ноч даўно!

— Адчыніце,
Гэта воўк.
Я прыйшоў да вас
Здалёк.
Ад сарокі я пачуў,
Быццам тут жыве хлапчук,
Што заўсёды крыўдзіць
Меншых,
Што смяецца
Са слабейшых.
Дзе ён,
Гэты ваш герой?
Забяру яго з
З сабой,
Хай сярод лясное цішы
Ваўчанят маіх калыша.



— Што ты, што ты,
Шэры воўк!
Памыліўся ты,
Браток.
Хлопчык наш
Не крыўдзіць меншых,
Не смяецца
Са слабейшых.

Разам з імі ён
Гуляе.
Калі трэба —
Памагае.
Вельмі ціхі
Наш сынок.
Памыліўся ты,
Браток.

— Стук-стук!
— Хто там, хто там?
Хто там стукае ў акно?
На дварэ ўжо ноч даўно!

— Гэта стукае
Мядзведзь.
Адшукаў ваш дом я
Ледзь.
Гаварыла мне сарока,
Што жыве тут недалёка,
Быццам сын у вас
Гультай,





На ўсе просьбы
Толькі
«Ай!
Не хачу!
Не буду!
Потым!»
Трэба гнаць з яго
Ляноту.
Пасаджу яго
Ў мяшок,
Аднясу
У наш лясок.
Хай сярод лясное ці́шы
Ён дзяцей маіх калыша.

— Што ты, што ты,
Добры мішка!
Нешта блытаеш ты
Крышку.
Бо сынок наш
Не гультай.

У любога запытай.
Ён і маме дапаможа.
Ён і тату дапаможа.

Ціха-ціха за акном.
Вунь пайшлі
Мядзведзь з ваўком.
І каго яны шукаюць,
Спаць уночы замінаюць?
Не здагадваешся?



## КАМАР

Ох і цяжкі
Камарыны лёс!
У яго ж
Такі даўжэзны нос!

Гэта вам не смешкі,
У аўторак
Пралятаў камар
Праз наш надворак.

Зачапіўся носам ён
За плот
І зваліўся
Прама ў агарод.

Патаптаў там
Шчаўе і цыбулю.
Добра,
Хоць не бачыла
Бабуля!

А інакш
Тады б ужо нямала
Ад бабулі
Камару
Папала!

## МАЛАКО ЦІ АБАРАНАК?



Спрытны,
Шустры
Верабейка
На двары
Знайшоў капейку.

— Чык-чырык! —
Сяброў склікае. —
Паглядзіце,
Што я маю!

Зараз купім
На сняданак
На базары
Абаранак.

Ды смяецца
Кот ля ганка:
— Што за смак
Ад абаранка!

Лепш купіце
Малака.
Вось дзе, бра́ткі,
Смаката!



## ШЧУПАК

А было аднойчы
Так:
З рэчкі вынырнуў
Шчупак.
Пасядзеў крыху
На сушы
І прамовіў,
Уздыхнуўшы:
— Тут, вядома,
Хораша,
Толькі вельмі ж
Горача!
Смачна
Пазяхнуў
І назад
Нырнуў.

## МЫ КУПІЛІ КРАКАДЗІЛА

— Вы хадзілі?
— Мы хадзілі.

— Вы купілі?
— Мы купілі.

Сёння мы
З сястрычкай Зінай
Абышлі
Ўсе магазіны.

Мы хадзілі
Цэлы дзень.
Рыбак не знайшлі
Нідзе.

Ды затое
Там адзін
Прадаваўся
Кракадзіл.

Мы сабе яго
Купілі.
Дома ў ванну
Пасадзілі.

А пасля яшчэ
Туды
Напусцілі мы
Вады.

— А не маніце вы
Мне?
— Не!

Кракадзіла мы
Купілі,
Ды спытацца вось
Забылі,

Чым карміць яго нам
Можна:
Рыбай?
Кашаю?
Марожаным?

Кракадзіл
Прагаладаўся,
Раптам з ванны
Паказаўся.

Гэтак ляснуў ён
Зубамі —
Шыбы ў вокнах
Задрыжалі!

Стукнуў па вадзе
Хвастом —
Здрыгануўся
Цэлы дом!
Мы з сястрычкаю —



За дзверы,
І ўцяклі хутчэй
З кватэры.

Што, не верыш?
— Веру.
З кожным
Здарыцца такое
Можа.

Добра хоць,
Што за пятак
Не купілі вы
Кіта.

Яго ранкам
На вакзале
Гэтаксама
Прадавалі!



## ЛУЖА

Лівень скончыўся!
Нам з братам
Зараз можна
Выйсці з хаты.

Мы ўзялі
Свае лапаткі,
Каб з пяску
Пячы аладкі,

І, абуўшыся
Ў сандалі,
На надворак
Паскакалі.

Скок-скок
Ля парога.
Скок-скок
На дарогу.

А ля самых весніц
Лужа
Разляглася
Важна дужа.

Падміргнула:
— Пераскочыць
З вас ніхто мяне
Не хоча?
— Ха! — сказаў
Мой брат.—
Ды кожны
Вельмі лёгка
Гэта можа!

Скочыў ён,
І на бяду
Трапіў прама
У ваду.

— Ха! — сказаў
З усмешкай я.—
А цяпер
Чарга мая.

Вось як трэба
Разганяцца,
Каб у лужы
Не скупацца!

Адышоўшыся,
Разуўся,
Разагнаўся,
Адштурхнуўся...

Толькі лужа —
Ну і ну! —
Хап
За левую нагу!

Пацягнула
За штаны —
Сталі мокрымі
Яны.

Ціха-ціхенька
Мы з братам
Ледзьве цягнемся
У хату.

Будзе зараз нам
Ад мамы!
Брат маркотны.
Я таксама.

Ну, а лужа ўслед нам:
— Гэй!
Вы ж вяртайцеся
Хутчэй!

Я вас буду
Тут чакаць.
З вамі
Весела гуляць!



## ЗАЙЧАНЯТКІ

— Дзе былі вы,
Зайчанияткі?
— Загаралі
Каля градкі.
— А пасля куды
Прапалі?
— Маме дома
Памагалі.
Мылі міскі,
Мылі лыжкі,
Акуратна склалі
Кніжкі.
— Ну, а што пасля
Рабілі?
— Да мядзведзіка
Хадзілі.
Пазаўчора яму
Дзед
Падарыў
Веласіпед.
І цяпер мы
На палянцы
Разам вучымся
Катацца.
Хочаш з намі
Павучыцца?
Толькі ты
Не будзеш
Біцца?



## ДЗЕД, ВАЎКІ І АВЕЧКІ

— За шырокай ракою
Стаіць дзед з барадою.
То стаіць, то скача,
То смяецца, то плача.
Калі дзед смяецца —

Дождж халодны льецца!
Калі дзед заплача —
Дождж ідзе гарачы!

— А ты мне яго пакажаш?

— Паказаць?
Ды што ты кажаш!
Кожны дзень каля ракі
Ходзяць страшныя ваўкі.
Хто з імі сустракаецца —
Дадому
Не вяртаецца!
Я і сам ледзь-ледзь аднойчы
На абед не трапіў воўчы!
Добра, што ля рэчкі
Бегалі авечкі.
На мой крык
Прымчалі
І ваўкоў —
Прагналі!



**САРОКА**

Гэтая сарока
Лятала далёка:
За шырокае мора,
За высокія горы,
За палі, за ўзгоркі,
Да свае сяброўкі.
Там дзівы бываюць розныя,
Вясёлыя і сур'ёзныя!

Ды пакуль вярталася —
Прагаладалася.

Дайце сароцы
Крыху караваю,
Тады яна песню
Вам праспявае.
Дайце сароцы
Талерачку кашы,
Яна вам за гэта
Казку раскажа.
Дайце сароцы
Блін ці аладку,
Яна вам тады
Загадае загадку.

А хто правільны
Знойдзе адказ,
Таго
У наступны раз,
Так і быць, сарока
З сабою возьме далёка:
За шырокае мора,
За высокія горы,
За палі, за ўзгоркі,
Да свае сяброўкі.

Там дзівы бываюць
Розныя,
Вясёлыя і сур'ёзныя!



*Віктар Шніп*

# СУНІЧКІ ДЛЯ ВЕРАНІЧКІ





## СУНІЧКІ ДЛЯ ВЕРАНІЧКІ



На паляне
ля крынічкі
Чырванеюцца
сунічкі.
Я іх буду сабіраць,
Каб дачушку
Частаваць,
Бо яна яшчэ
Малая
І сцяжынкі ў лес
Не знае.

Толькі кажа
Веранічка:
— Падрасту
І ля крынічкі
Ягад набяру багата,
Прынясу
для мамы з татам.



## ДЗЯТЛАВА БУДОЎЛЯ

— Ці вы чулі,
А ці не?
Дзяцел зранку
На сасне
Ладзіць домічак
Саве.
Сам без доміка
Жыве.

Дзяцел, дзеткі,
Не гультай.
Грук стаіць
На цэлы гай.

Ён прачнуўся сёння
Рана.
Працы хопіць
Да цямна.
Паглядзіце,
Як старанна
Робіць раму
Для акна! —
Гучна каркае варона.

Дзяцел мовіў не са зла:
— Чым крычаць вось так
Штодзённа,
Лепей мне б дапамагла.
Адвярнулася варона
І з будоўлі
уцякла.

## ВОЖЫК-ГРЫБНІК



Вожык назбіраў
Баравікоў
І нясе іх
Радасны
Дамоў.
Зайцу даў —
Паснедаць Зай прасіў.
Па грыбку ўзялі
Браты ласі.
Баравік вавёрачка ўзяла —
На гару ўзысці
Дапамагла.
Воўк пытае:
— Што ты за грыбнік,
Мне аддаў
Апошні баравік?
Вожык усміхнуўся
І сказаў:
— Не шкада нічога
Для сяброў,
А грыбоў
Я назбіраю зноў.



## ЛІСІЧКА

Рыжая лісічка,
Воўчая сястрычка,
Не блукай
Ля хаты,
Мы табе
Не рады.
Бачу —
Хочаш кашы.
Гэта каша
Машы.
Рыжая лісічка,
Воўчая сястрычка,
Не прыжмурвай
Вочы —
Маша есці хоча.
З'есць і лыжку
І другую,
І лісічку
Пачастуе.



## ПЕВЕНЬ—НАСТАЎНІК

Ходзіць певень
Па двары
Ад зары
І да зары.
Строгі
У яго пагляд.
Ён — настаўнік куранят.

Курыца бяжыць услед,
Кліча вучняў
На абед.
Ды працягваецца ўрок —
Не звінеў яшчэ
Званок.

— Вы за мной
Хутчэй,
Хутчэй! —
Певень кліча ўсіх дзяцей. —
Завяду я вас
У сад.
Пакажу вам
Вінаград.

## ПЯТРОК УЖО ВЯЛІКІ

Заблудзіўся матылёк.
І яго знайшоў Пятрок:
— Дзе жывеш ты?
— Ля ракі.
Плачуць там мае бацькі.

Да ракі
Бяжыць Пятрок.
На далоньцы
Матылёк.
Запытаўся дзед Лявон:
— Матылька нясеш
Куды?!

— Да ракі.
Маленькі ён,
Ну а мне ўжо
Тры гады!

## ВЕРАБ'ІНАЯ СЯМ'Я



Паглядзі —
У Вераб'я
Не маленькая сям'я.
Самы меньшанькі
Андрэй
Смела скача
Ля курэй.
Тут жа большанькі
Лявон
Адганяе прэч
Варон.
— Эх, паесці б мне
Зярнят! —
Чарназём грабе
Ігнат.
Светкі з Маняй
Не відаць —
З мамай
Вучацца лятаць.
Палічы цяпер хутчэй,
Колькі ў Вераб'я дзяцей.



## ПРА КОЦІКАЎ І ІХ БОЦІКІ

Раніцою коцікі
Абувалі боцікі.
І таму
Каткі-браты
Не баяліся
Вады.

Ды аднойчы
Раніцой
Неяк стрэліся
З лісой.
— Што ж вы гэта,
Коцікі,
У старэнькіх
Боціках?

Разувайцеся,
Я дам
Боты новенькія
Вам.

Радасныя коцікі
Паздымалі боцікі.
Боцікі ліса ўзяла
І ў бярэзнік
Уцякла.

Коцікі,
Эх, коцікі,
Нашто здымалі
Боцікі?



## ДЗЕД МЯДЗВЕДЗЬ

Дзед мядзведзь
Дамоў ідзе,
А за ім услед
Гудзе
Пчолаў цэлы карагод —
Дзед нясе ў калодзе
Мёд.

Захварэў
Маленькі ўнук —
Доктар слухаў —
Сам барсук.
Мёд малому прапісаў.
І прыходзіла
Ліса:



— Я ўсё ж вылечу хутчэй,
Прынясі,
Мядзведзь,
Курэй.
— Ах ты,
Рыжая ліса!
Мёд жа доктар прапісаў.



Дзед нясе
Унуку мёд.
Следам —
Пчолаў карагод.

## ЗАЯЦ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

Смела заяц едзе
На веласіпедзе.
— Гэй ты, шэры Зай,
Крыху пачакай! —
Воўк услед спяшае,
Зайца даганяе.
— Не дагоніш. Гэй! —
Зай крычыць смялей,
Бо ён хутка едзе
На веласіпедзе.

## КАЛЫХАНКА

Верабейчык,
Верабей,
Ты не стукай
Па акне.
Дам зярнятак я
Табе,
Хай сыночак мой
Засне.

Верабейчык,
Верабей,
Раніцою прылятай.
А цяпер
Ляці хутчэй
У гняздо,
Адпачывай.



Сон хай прыйдзе
Да цябе,
Засынай,
Сыночак мой.
Верабейчык,
Верабей,
Пасябруем мы
З табой.





## ХТО ПАКРЫЎДЗІЎ ХМУРЫНКІ

— Ах, якія чорныя
Хмурынкі!
Не люблю я вас
Зусім. —
Ножкай босай
Тупае дзяўчынка,
Пальчыкам махае ім.
— Вы мурзатыя,
Нібыта свінкі. —
Кажа Светка.
І праз міг
Ціхенька заплакалі
Хмурынкі.

Хто ж пакрыўдзіў іх?

## ПАМІДОРЧЫК-ЛЕЖАБОКА

— Лежабока!
Лежабока!! —
Раскрычалася сарока. —
Памідорчык,
Уставай!
— Ой, баліць мне галава.
— Уставай, бо сонца ўстала! —
Побач вішня не змаўчала.
— Трэба,
Браце,
Працаваць.
Уставай жа, уставай! —
Зашумелі травы
Хорам.

Лежабокам быць —
Ой, сорам!
Памідорчык зразумеў
І крыху
Пачырванеў.

## НЕ ПЛАЧ

Анечка,
Не плач,
Цішэй.
Слёзкі выцеры з вачэй.
Бачыш,
Коцік наш не плача,
Па падлозе
Зранку скача.

Кліча Анечку
Гуляць —
Ён не любіць
Сумаваць.
Хоча коцік наш
Маленькі
Да дзяўчынкі
На каленькі.
Анечка,
Не плач,
Цішэй.
Слёзкі выцеры хутчэй
Не рукою,
А хусцінкай —
Ты ж
Вялікая
Дзяўчынка.



## ЗМЕСТ

Алесь Бадак

### ХТО ТАМ СТУКАЕ Ў АКНО?



Віктар Шніп

### СУНІЧКІ ДЛЯ ВЕРАНІЧКІ







Для дашкольнага ўзросту

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БАДАК Аляксандр Мікалаевіч, ШНІП Віктар Анатольевіч**

**МЫ КУПІЛІ КРАКАДЗІЛА**

**Вершы**

Рэдактар *У. І. Карызна*
Мастацкі рэдактар *Ю. Ц. Цярэшчанка*
Тэхнічны рэдактар *С. А. Абрамчук*

Здадзена ў набор 21.03.94. Падпісана да друку 15.09.94. Фармат $60 \times 90^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 2,0. Ум. фарб.-адб. 8,50. Ул.-выд. арк. 1,99. Тыраж 20 000 экз. Зак. 616.

Выдавецтва «Юнацтва» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, Каржанеўскага, 20.

Дыяпазітывы тэксту падрыхтаваны Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінатам імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.